# НОВАЯ ПРАПАНОВА АМЭРЫКАНСКАГА КАМІТЭТУ

3-га красавіка г. г. Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня ад Бальшавізму разаслаў прэсе выпрацаваны ім тэкст умовы дзеля практычнай працы у змаганьні з бальшавізмам.

Колькі дзён перад гэтым тэкст гэты быў перададзены прадстаўнікам тых нерасейскіх і расейскіх палітычных групаў, якія бралі ўдзел ў леташняй Мюнхэнскай Канфэрэнцыі.

Да згаданага тэксту ўмовы, прапанаванай Амэрыканскім Камітэтам эміграцыі — быў далучаны ліст адмірала Стывэнса, старшыні Амэрыканскага Камітэту, у якім падаюцца прычыны ўзятай на сябе Камітэтам ініцыятывы ў выпрацаваньні гэтых умоваў і папярэджаньне арганізаванай эміграцыі ўважна й спакойна абмяркаваць прапанову Амэрыканскага Камітэту, скарыстаць з гэтае нагоды супрацы й не адкідаць яе лёгкадумна, бо „можа стацца так, што іншае магчымасьці гэткага супрацоўніцтва з амэрыканцамі ўжо не надарыцца".

Да тэксту прапанаванай умовы была далучаная яшчэ й копія лісту, высланага адміралам Стывэнсам сп.-ром Е. Гегечкоры — сяньняшняму прэзыдэнту й міністру замежных справаў Грузінскага Эміграцыйнага Ураду — як старшыні Міжнацыянальнай Кантактнай Камісіі і П. Мяльгунову - старшыні кагадзе створанага Керанскім г. зв. 2-ога КЦАБу'.

У гэтым лісьце адмірал Стывэнс дакладна выясьняе прычыны, якія змусілі Амэрыканскі Камітэт выпрацаваць згаданы праэкт умовы й побач з гэтым паведамляе, што заплянаваная Камітэтам Камісія Практычнае Працы мае складацца з 6-ёх асобаў — трох з групы арганізацыяў, якія складаюць г. зв. Кантактную Камісію (якую адмірал Стывэнс памылкова называе МАКЦ'ам) і трох ад „КЦАБ'у" Мяльгунова.

Перачытаўшы ўважліва прыгаданыя дакуманты, трэба прысьці да высновы, што Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня ад Бальшавізму, пасьля трох год сваёй працы пераканаўся у немагчымасьці стварыць супольны каардынацыйны цэнтар эміграцыі з аднэю палітычнай плятформай як для нерасейскіх, гэтак і расейскага народу, — і пастанавіў узяць усю ініцыятыву ў свае рукі, прапануючы эміграцыі ўмову Саюзу Практычнае Працы для змаганьня з бальшавізмам.

Ніжэй падаем пераклад прапанаванай Амэрыканскім Камітэтам Вызваленьня умовы на беларускую мову, паўстрымліваючыся тымчасам ад камэнтараў і зазначаючы адно тое, што праэкт гэтае ўмовы шмат у чым пярэчыць імкненьням нерасейскіх народаў. Таму, мы не сумляваемся, што народы, якія ўваходзяць у склад Парыскага Блёку, ня будуць магчы прыняць яго без належных зьменаў. Ня сумляваемся мы, аднак, таксама і ў тым, што кіраўніцтва Парыскага Блёку абмяркуе праэкт умовы Амэрыканскага Камітэту супакойна й аб'ектыўна ды патрапіць пераканаць Амэрыканскі Камітэт у неабходнай патрэбе зрабіць належныя зьмены ў тэксьце гэтае ўмовы, таксама як яны (сябры Парыскага Блёку) патрапілі ў сваім часе пераканаць Амэрыканскі Камітэт у патрэбе разьвязаць няздатны да змаганьня з бальшавізмам КЦАБ.

Як мы кагадзе даведаліся, у Парыжы мае неўзабаве адбыцца Канфэрэнцыя Парыскага Блёку, прысьвечаная абмяркаваньню гэтае справы, на якую выехаў дадзены й прэз. М. Абрамчык.

Беларуская эміграцыя павінна дзеля гэтага зусім спакойна чакаць вынікаў гэтае канфэрэнцыі, паўстрымліваючыся ад магчымых нетактоўных выступаў, якія зрабілі-б пазыцыі нашай дэлегацыі на Парыскай Канфэрэнцыі цяжэйшымі.

## ТЭКСТ ПРАЭКТУ УМОВЫ

### Уступ

Мы, ніжэйпадпісаныя, задзіночаныя ў нашай наважнасьці змагацца за зьнішчэньне камуністычнае дыктатуры, якая паняволіла нашыя народы. Натхнёныя нашай адданасьцяй іхным інтарэсам, мы аддаем свае сілы супольнаму змаганьню за іхнае вызваленьне ад савецкае тыраніі. Мы задзіночаныя ў нашым імкненьні ўстанавіць заместа яе свабоду й справядлівасьць, аснаваныя на панаваньні закону й пашаны да гонару чалавека. Маючы на ўвеце спадзяваньні й ідэалы нашых сяброў-змагароў у гэтым супольным пачыне, мы пастанаўляем быць узаемна талеранцыйнымі ў дачыненьні да іхных палітычных і рэлігійных паглядаў і прызнаем ім права трымацца гэтых паглядаў ды пашыраць іх. Мы задзіночваемся ў гэтым пачыне супольнага змаганьня з бальшавізмам і ў межах гэтае супольнае справы наважныя не дапусьціць, каб нашая нязгода перашкодзіла ўдаламу выкананьню згаданага заданьня. Дзеля гэтага мы лічым недапушчальнаю прапаганду нацыянальнай нянавісьці.

Хай дапаможа нам у гэтай справе Гаспод Бог!

### Асноўныя паложаньні.

Мы бярэм на сябе абавязак трымацца, як асновы дзеля супольнай практычнай працы гэткіх паложаньняў.

1. У сваёй дзейнасьці у межах і навонкі нашае супольнае справы мы прызнаем, як плятформу якая ня можа ужо быць абмяжаваная, бясспрэчнае права ўсіх народаў, што засяляюць прастору Савецкага Саюзу, самым, дэмакратычным шляхам вырашыць свой лёс пасьля зьнішчэньня бальшавізму.

2. У сваёй дзейнасьці ў межах нашага супольнага пачыну, — але захоўваючы свабоду пашыраць свае палітычныя пагляды за ягонымі межамі, — мы згодныя, што будучы палітычны лад і ўзаемныя дачыненьні паміж часткамі Савецкага Саюзу, заселенымі рознымі народамі, а таксама момант і спосаб зьмены ўзаемадачыненьняў, якія існуюць, — гэта пытаньні якія не ўваходзяць у межы нашае супольнае справы.

3. Прызнаецца, што групы, якія імкнуцца да адбудовы дарэвалюцыйнага ладу або да пабудовы абы-якое формы таталітарнае дыктатуры, таксама як і тыя, што адкідаюць прынцыпы выяўленьня у вырашэньні нацыянальных пытаньняў, волі народу, ня будуць удзельнічаць у нашым супольным пачыне.

4. Ні адзін пункт гэтага Пагадненьня ня можа быць тлумачаны, як пункт, што вылучае з удзелу ў гэтай справе у будучыні дадатковых адказных дэмакратычных групаў.

### II.

### Арганізацыйная частка.

Каб пачаць, супрацоўнічаючы з Амэрыканскім Камітэтам Вызваленьня ад Бальшавізму, практычную працу на супольнай аснове, мы творым Саюз дзеля Практычнае Працы, які мае служыць толькі нашым народам. Выканальным органам Саюзу Практычнае Працы, які мае пляваць і весьці гэтую практычную працу, будзе сталая Камісія Практычнае Працы.

Камісія Практычнае Працы будзе выпрацоўваць палітычны кірунак і пляны практычнае дзейнасьці ў нашым супольным змаганьні супраць бальшавізму. Гэтая праца мае складацца: з радыё-перадачаў, апрацаваньня друкаванага матар'ялу, кіраванага на той бок, распрацаваньня праграмы належных выданьняў і іншых спосабаў прапаганды, якія спрыяюць дзейнасьці Саюзу дзеля Практычнае Працы, улучэньню ў супроць бальшавіцкае змаганьне навуковых, акадэмічных і культурных сілаў эміграцыі ды адмысловыя праэкты, якія будуць вынікаць із падзеяў ды абставінаў, спрыяльных эфэктыўнаму выкарыстаньню іх.

Дзеля забяспечаньня працаздольнасьці Камісіі Практычнае Працы, яна творыцца пакуль што з шасьцёх сяброў. Маючы на ўвеце агульнапрызнаную вартасьць даўгога непасярэднага жыцьцёвага дазнаньня, набытага пад савецкім ладам і асабістага веданьня сучасных умоваў у СССР, гэтыя сябры будуць выбраныя з асяродзьдзя новых эмігрантаў, згодна з іхнымі кваліфікацыямі ў галіне плянаваньня й выкананьня практычнае працы. Дзеля забясьпечаньня плоднага супрацоўніцтва паміж Амэрыканскім Камітэтам Вызваленьня ад Бальшавізму й эміграцыяй, сябры Камісіі Практычнае Працы павінны быць зацьверджаныя Амэрыканскім Камітэтам.

Узаемадачыненьні паміж Амэрыканскім Камітэтам і Саюзам дзеля Практычнае Працы базуюцца на іхнай супольнай зацікаўленасьці антыбальшавіцкім змаганьнем. Таму роля Амэрыканскага Камітэту не абмежваецца адно матар'яльным ды маральным падтрыманьнем Саюзу, але выяўляецца таксама ў удзеле Камітэту ў Камісіі Практычнае Працы. Дзеля гэтага Эўрапэйскі Прадстаўнік Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня ад Бальшавізму або ягоны заступнік будзе дзейнічаць, як адказны дараднік Камісіі Практычнае Працы, з правам удзелу ў усіх ейных паседжаньнях, а таксама і як пасярэднік, калі гэта будзе патрэбнае. Пастановы Камісіі Практычнае Працы будуць прыймацца пасьля ўзгадненьня іх з адказным дараднікам Камітэту.

Камісія Практычнае Працы будзе адказваць за падрыхтаваньне й прадстаўленьне ў Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня ад Бальшавізму плянаваных бюджэтаў на аплату працаўнікоў і адміністрацыйныя выдаткі Камісіі ды ейных аддзелаў, а таксама на аплату адмысловае дзейнасьці, запрапанаванае ёю.

### III.

### Заданьні.

Радыё.

Камісія дзеля Практычнае Працы творыць аддзел, сябры якога выбіраюцца на аснове асабістых ведаў, здольнасьцяў і дазнаньня ў інтэрпрэтацыі здарэньняў і плыняў у Савецкім Саюзе й у камуністычнай прапагандзе. Гэты аддзел будзе падрабязна выконваць функцыі Камісіі Практычнае Працы ў дачыненьні да радыё-станцыі „Вызваленьне" й будзе падтрымліваць цесную сувязь із згаданай радыё-станцыяй. Агульныя палітычныя дырэктывы — як часовага, гэтак і больш сталага характару — распрацаваныя гэтым аддзелам, патрабуюць зацьверджаньня Камісіі Практычнае Працы, а пытаньні штодзённага парадку распрацоўваюцца непасярэдна гэтым аддзелам і радыё-станцыяй „Вызваленьне".

Выдавецтва.

Дазнаны й кваліфікаваны выдавецкі аддзел творыцца й кіруецца Камісіяй Практычнае Працы. Гэты аддзел будзе раіць і даваць праэкты выданьня ды пашырэньня матар'ялаў, адмыслова прызначаных дзеля дапамогі дзейнасьці Камісіі Практычнае Працы, а таксама будзе рыхтаваць, выдаваць і распаўсюджваць друкаваныя матар'ялы паводле радаў Камісіі. У згаданую дзейнасьць можа быць улучанае стварэньне органаў прэсы для Саюзу Практычнае Працы і супрацоўніцтва ў выдаваньні друкаванага матар'ялу дзеля распаўсюджаньня за Зялезнай Заслонай. Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня ад Бальшавізму вылучае свайго прадстаўніка дзеля працы, як тэхнічнага дарадчыка выдавецкага аддзелу.

Навука, Акадэмічная і культурная дзейнасьць.

Камісія Практычнае Працы вызначае невялікую групу кваліфікаваных навуковых працаўнікоў дзеля выпрацаваньня рэкамэндацыяў Інстытуту Вывучэньня Гісторыі й Культуры СССР у справе тых патрэбаў супрацьбальшавіцкага змаганьня, якія могуць быць найлепш выкананыя якраз Інстытутам. Гэтая група будзе імкнуцца апрацоўваць, супольна з Інстытутам, плянавыя праграмы досьледаў у культурнай, акадэмічнай і навуковай галінах, карысныя ў практычнай дзейнасьці Камісіі. Яна будзе канцэнтраваць свае намаганьні на прапановах канкрэтных магчымасьцяў досьледаў у галінах, непасярэдна зьвязаных із супроцьбальшавіцкім змаганьнем. Амэрыканскі дарадчык пры Інстытуце будзе й дарадчыкам пры гэтай групе.

Адмысловыя праэкты.

Апрача кіравецтва сваймі аддзеламі, Камісія Практычнае Працы будзе займацца таксама й апрацаваньнем гэткіх адмысловых прыймаў псыхалягічнае зброі ў супроцьбальшавіцкім змаганьні, як дэманстрацыі, масавыя мітынгі, сходы з прычыны розных угодкаў, урачыстасьці й выставы. Мяркуецца, што Камісія Практычнае Працы будзе патрабаваць ад часу да часу дапамогі спэцыялістых-экспэртаў дзеля выкананьня сваіх адмысловых плянаў. Можа таксама паўстаць патрэба стварыць часовую групаў спэцыялістых дзеля апрацаваньня належных плянаў і праэктаў. Тады Камісія Практычнае Працы мае накіроўваць гэткіх спэцыялістых у часовую групу. Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня ад Бальшавізму таксама далучае да гэткае часовае групы свайго прадстаўніка ў ролі тэхнічнага дарадчыка.

# БЕЛАРУСКАЕ ЮР'Я

— „Сьвяты Юры, Божы пасол
Да Бога пайшоў,
А ўзяў ключы залатыя,
Адамкнуў зямлю сыругенькую,
Пусьціў расу цяплюсенькую,
На белы цьвет і на ўвесь сьвет".

Бел. народная песьня.

Юр'я — дзень 23-га красавіка прысьвечаны памяці сьв. Юрага, асабліва шануецца на Беларусі. Абрады, зьвязаныя з днём сьв. Юрага выразна сьветчаць аб вельмі старадаўным значаньні гэтага сьвята, якое ў часы славянскага паганства было ў нас ведамае, як дзень бога, (ці уцелаўленьня аднае з боскіх свомасьцяў Вялікага Бога) — Юра ці Яра. Пазьней, калі на нашую зямлю прыйшло хрысьціянства, гэтае сьвята паганскага Юра ці Яра зьлілося было (ці не дзеля падабенства імёнаў) з ушанаваньнем памяці хрысьціянскага сьвятога — воя Юрага, на якога й перанесьліся ўсе свомасьці, зьвярнулася ўся вера нашага народу, зьвязаная зь імём даўнейшага Юра (ЯРА).

Беларускі народ верыць да сяньня, што сьв. Юры — апякун хатняе жывёлы, якую ён пільнуе й бароніць ад бяды й чараў. Верыць наш народ таксама ў тое, што сьв. Юры сьцёражэ лясы, дзе пасецца скаціна, апякуецца яснымі зьвярамі й птушкамі.

На Юр'я ў нас упяршыню выганяюць у поле каровы ды авечкі. Цікава апісвае звычаі, зьвязаныя з гэтым, этнограф Шпілеўскі ў адным з сваіх допісаў ад 1853 году, г. зн. пісаным якраз 100 год таму.

— „Ужо загадзя, — піша Шпілеўскі, — часам колькі тыдняў перад Юр'ям, вёска наймае чэснага, паджылага пастуха-пастыра, які застаецца часам на гэтай сваёй пасадзе ў згаданай вёсцы даўгія гады й карыстаецца агульнаю пашанаю ня толькі таму, што мае вялікае дазнаньне ў сваёй галіне, але й таму, што ведае свомасьці зёлаў ды карэньняў і ўдала лечыць хворую скаціну. Шануючы гэткага пастыра, сяляне дагаджаюць яму, баючыся, каб ён, дзякуючы сваёй таёмнай ведзе, не зачараваў ка-

(Канец на 4-ай бал.)

эразумененьні, уступлівасьці й братэрстве.

Аднак, супраца гэткая магчымая — у вельмі прагматычным і практычным сэнсе — толькі тады, калі правы народаў нікім ня будуць таптаныя, калі яны будуць магчы свабодна, з узьнятай галавой ісьці наперад, калі яны будуць чуцца **роўнымі між роўнымі сябрамі сьвету**, верыць у свабоду й справядлівасьць.

Як я ўжо зазначыў — і тыя, што належаць да Парыскага Блёку й тыя, што прысутныя сяньня тут, ужо выплылі на узьверх яшчэ да нядаўна аднаго, агульнага для нас усіх мора пакутаў. Але сябрамі, братамі яны сяньня ня толькі таму, што разам некалі пакутвалі. Яны цесна зьвязаныя і нечым іншым: і Армяны, і Азарбайджанцы й Беларусы і Ідэль-Уралы й Паўночныя Каўказцы й Туркестанцы й Украінцы, — усе маюць за сабою даўгія стагодзьдзі слаўнай гістарычнай мінуласьці.

Гісторыя гэтая не складаецца з нападаў дзеля заваёваў, яна перадусім — шляхотны й варты таго, каб ім ганарыцца сьцяг рыцарскага змаганьня за высокія правы свабоды, роўнасьці й справядлівасьці. Кажны з гэтых народаў меў у сваёй гісторыі даўгія стагодзьдзі дзяржаўнае незалежнасьці, творчае працы й цывілізацыі, аддаў сваю даніну справечнаму агульна-людзкаму ходаньню, намаганьням узьняць на ўзвышшы, пабудаваць, лепшы, справядлівейшы сьвет.

Кажны з іх ахвяроўваў, пакаленьне па пакаленьні, кроў сваіх дзяцей, сыноў і дачок, у імя перамогі свабоды, праўды й справядлівасьці ня толькі ў межах свае собскае краіны, але ў імя шчасьця ўсіх народаў нашага блёку наагул.

Ёсьць і яшчэ нешта вельмі важнае, што моцна нас сяньня лучыць:

Парыскі Блёк складаецца з найбольш адказных арганізацыяў-прадстаўніцтваў народаў, якія ў ім задзіночаныя. Што гэта так, даводзіць ня трэба, бо довады тут сягоньня перад вачыма ўсіх.

Сьветчыць аб прыгаданым і тое, што напрацягу 35 гадоў у паняволеных бацькаўшчынах усіх народаў, прадстаўніцтвы якіх уваходзяць сяньня ў склад Парыскага Блёку, Саветы вялі й вядуць нясупынне й жорсткае змаганьне супраць існаваньня, памяці й самога нат імя гэтых прадстаўніцтваў.

Супроць гэтае праўды ніхто нічога ня скажа й аднае яе хопіць, каб сьцьвердзіць маральную й палітычную вагу прадстаўніцтваў-сяброў Парыскага Блёку. Кажны-ж ведае, што Саветы ня маюць звычаю паляваць, не шкадуючы зброі, на нягкых супраціўнікаў або ўяўных адно ворагаў.

Менш, чымся месяц таму, Дзяржаўны Сакратар Джон Фостар Даллес сказаў у сваёй прамове да Амэрыканскага народу:

„Мы мусім непахісна трымацца перакананьня, што народы й нацыі, якія не зьяўляюцца сяньня гаспадарамі свае долі й будучыні, павінны імі стацца".

І гэта праўда. **Так мусіць стацца.** Не таму, што прадстаўленыя тут сяньня народы хацелі-б дзеіць паводле свайго эгаістычнага жаданьня, упарта множачы новыя праблемы й новыя закалоты, але таму, што адзіны ратунак для чалавецтва, зразуметага як арганізаванае цэлае, — гэта лад, дзе гаворачы словамі сп. Даллеса — „кажны народ — гаспадар свае собскае долі".

Тады бо, і толькі тады справядлівасьць, свабода, над усё-ж трывалы супакой, перастануць быць абстракцыйнымі паняцьцямі, а станучца жывой запраўднасьцяй, зь якое будуць цешыцца заўсёды, усюды і ўсё".

Шмат хто з выдатнейшых амэрыканцаў, якія прысутнічалі, як госьці, на акадэміі, із захопленьнем выказвалі пасьля свае ўражаньні — сьцьвярджаючы, што ўпяршыню ў Амэрыцы давялося ім пабачыць так салідную й так культурную міжнацыянальную дэманстрацыю.

Гэткае-ж ўражаньне выказаў і сп. Чарльз І. Кэрстэн, які, як ведама, лічыцца ў ЗША адным з найлепшых знаўцаў нацыянальных рухаў і бачыў ужо не адну міжнацыянальную імпрэзу. Гэткая-ж ацэна й гэткія прыхільныя водгукі аб сьвяткаваньні першых угодкаў заснаваньня Парыскага Блёку тлумачацца, хіба наступнымі прычынамі:

Парыскі Блёк, як міжнацыянальная арганізацыя, вызначыўся ад першага дня свайго паўстаньня сваёй павагай, салідансьцяй і тактоўнасьцяй, як ніводная зь іншых дасюлешніх міжнацыянальных арганізацыяў, а таму на яго й былі зьвернены вялікія ўвага й зацікаўленасьць паважнейшых амэрыканскіх дзеячоў.

Арганізатары Акадэміі не падаліся уплывам „траскатлівасьці" й крыклівасьці, блізу неадлучным ад шаблённа арганізаваных дэманстрацыяў гэтага тыпу, ад іншых міжнацыянальных сьвятаў, падобных больш да звычайных прапагандовых мітынгаў.

Арганізатары Акадэміі Парыскага Блёку парупіліся, наадварот, надаць свайму сьвяту іншы сэнс, выказаць свае нацыянальна палітычныя дамаганьні у наскрозь культурнай, а гэтым і ў больш перакананальнай форме.

Удала й умела была прадстаўленая арганізатарамі й мастацкая частка акадэміі.

Нягледзячы на тое, што праз сцэну прайшло каля дзьвюх сотак удзельнікаў-артыстых — праграма зусім не стаміла аўдыторыю. Тры большыя хоры — беларускі, армянскі й украінскі з сорак, прыблізна, чалавек кажны й меньшыя групы й ансамблі іншых народаў, салёвыя выступы сьпевакоў, салёвыя й групавыя нацыянальныя танцы, багатая й гэткая розная калярыстыка нацыянальнае вопраткі, — усё разам складалася на ўражаньне нейкае вялікае, суцэльнае опэры-балету, кажны нумар якое быў сустраканы й праводжаны гарачымі воплескамі.

Прыгаданую суцэльнасьць, адзінства ў выяўленьні душы народнае запраўды моцна адчулі усе, бо сымбалічны зьмест гэтага адзінства — быў ясны й зразумелы кажнаму.

Вялікая удача сьвяткаваньня першых угодкаў заснаваньня Парыскага Блёку была аднак, асаблівай пацехай для нас, беларусаў, бо як ведама беларусы адыгралі адну з важнейшых роляў як у паўстаньні самога Парыскага Блёку, гэтак і у арганізацыі сьвяткаваньня першых ягоных угодкаў.

